Przesyłka opłacona gotówką 40%.

Цана асобнага нумару 15 гр.

# БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№ 9 | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская 8—8. | Вільня, 18 кастрычніка 1933 | Выходзіць два разы ў месяц. | Год I.

Цана абвестак паводле умовы. | Прыймо інтарэсантаў у рэдакцыі штодзень ад 9-й да 4-й гадзіны. | Цана падпіскі з дастаўкай поштай: у месяц—25 гр., у 3 » —70 », у ½ года—1.50, у 1 год —2.50

## Кангрэс МІЖНАРОДНАЙ ХАДЭЦЫІ.

Ізноў заварушылася беларуская чорная сотня. Ізноў над беларускім народам закружыліся чорныя крукі, апранутыя ў рызы бэхадэ'яды. Ізноў з вуснаў „прадстаўнікоў" двохмільённага народу паліліся прыгожая салаўіная трэль, маючая прысыпіць чуткасьць беларускіх працоўных масаў. Ізноў з вуснаў хрысьціянскіх дэмакратаў разносяцца пахвальныя гімны інтэрвэнцыі міжнароднай ваеншчыны супроць Савецкага Саюзу.

На хадэцкім панадворку — гоман. Апошнія падзеі на сусьветнай арэне і ў Зах. Беларусі, перамога мірнай палітыкі Сав. Саюзу і яго зблізкэньне з Польшчай, Францыяй і іншымі дзяржавамі--усё гэта ў высокай ступені трывожыць „нашых" ангелаў вайны, прыкрытых прыметнікам — „хрысьціянскіх". І яны не дрэмлюць. Узяўшыся за брацкія рукі з украінскімі фашыстамі з-пад знаку УНДО, пад духовым, і не толькі духовым, кіраўніцтвам гітлероўскае свастыкі — беларускія хадэкі на чале з ксяндзом Адамам і „апалітыкам" інжынерам Адольфам распачалі шалёную дзейнасьць у кірунку падгатоўкі з беларускага народу паслушнага гарматняга мяса ў надыходзячай чалавечай бойні.

Ніколі яшчэ хадэцыя не вяла такое зажартае кампаніі супроць СССР, а перадусім БССР, ніколі яшчэ нагласьць і дэмагогія хрысьціянсовых дэмакратаў не стаяла на тэй вышыні, ніколі яшчэ мана і ашуканства беларускіх народных мас не былі даведзены да такой ступені, як сяньня.

„Галодная сьмерць", „душэньне беларускай культуры", „перасьледаваньне ўсяго беларускага" „бальшавіцкі тэрор" — вось арсэнал звычайных бязглуздасьцяў, якія можна знайсьці ў кожным нумары „Крыніцы", якія можна пачуць на кожным выступленьні бэхадэкаў. Чым больш разьвіваецца беларуская культура ў БССР, чым вышэйшым становіцца ўзровень дабрабыту народных мас Сав. Беларусі — тым з большай заядласьцю хрысьціянскія дэмакраты вядуць сваю зьвягу. Яны не могуць заснуць. Кожная новая кніжка ў БССР, кожны новы крок у кірунку палепшаньня культурна-матэрыяльнага дабрабыту — іх трывожаць. І яны пачынаюць галасіць аб „галоднай сьмерці", аб заняпадзе культуры, аб усім, што толькі можа зьмясьціць галава крынічнага пісакі. Хрысьціянскія дэмакраты ўжываюць розные спосабы, каб толькі ўбіць у гушчы маласьведамых беларусоў ненавісьць да сваіх усходніх братоў, каб запаліць у іх сэрцах іскру абурэньня і гневу супроць „усходняга варварства" а гэтым самым духова падгатаваць масы народу да надыходзячай бойні.

У сярэдзіне прошлага месяца ў швайцарскім Бэрне адбыўся чарговы кангрэс т. зв. нацыянальных меншасьцяў, кангрэс, на які зьехаліся прадстаўнікі ўгадова-прадажніцкіх груп, прадстаўнікі міжнароднай хадэцыі. Прыкрыўшы сябе плашчом загнаных і прыгнечаных, кінуўшы пару шумных фразаў аб правох і абавязках кожнай нацыі — прадстаўнікі гэтыя ператварылі кангрэс нацменшасьцяў у кангрэс падгатоўкі вайны супроць СССР. Ужо першае пасяджаньне яго з усей выпукласьцю паказала, што ініцыятара кангрэсу не столькі абходзіць справа прыгнечаньня нацыянальных меншасьцяў, колькі пах савецкай нафты і выгляд шырокіх ураджайных палеткаў Сав. Саюзу. Таму з вуснаў белагвардзейца Кручынскага нясло не мірнымі ідэямі ў адносінах да савецкага насельніцтва, а порахам і ўдушлівымі газамі.

На кангрэсе вітаў і „прадстаўнік" беларускага народу, вядомы ўжо нам з свае „апалітычнасьці" пан Адольф Клімовіч. Гэты „апалітычнік", выконваючы запаведзь кс. Станкевіча і ўсяе хадэцыі, пасьпеў там сказаць і зусім „апалітычную", прамову і зусім „апалітычна" падпісацца пад рэзалюцыяй, заклікаючай да вайны супроць Савецкага Саюзу. Побач з абнаглеўшай да апошніх граніц радыкальнай дэмагогіяй, якая мае быць пяском у вочы народным масам, дэлегат хрысьціянскіх дэмакратаў супольна з фашыстоўскімі групамі іншых народаў радзіўся над падрыхтоўкай антысавецкай інтэрвэнцыі, радзіўся над тым, як „урваць" Савецкую Беларусь і Украіну ад Савецкага Саюзу і правясьці там „цывілізатарскую" работу пры дапамозе гітлероўскіх аўтодафэ, шыбеніцаў і канцэнтрацыйных лягераў.

Такім чынам, вядучы сталые і неўгамонныя напады і хлусьню супроць БССР, СССР і стварыючы гэтым шляхам ідэолёгічны грунт для надыходзячага паходу на ўсход, хадэцыя распачала актыўную дзейнасьць на міжнароднай арэне, стараючыся арганізацыйна ўмацаваць свае пляны.

Хто пасьля гэтага яшчэ не разумее праўдзівага аблічча БХД, той мусіць і зразумець не хоча. Беларускія народныя гушчы бачаць гэта і зробяць для сябе адпаведныя вывады.

## Мы не адны!

У папярэдняй стацьці*) мы паказалі, як адказваюць на пытаньне: „з кім лучыцца?" заможніцкія групы беларускага насельніцтва праз свае палітычныя арганізацыі: беларускую санацыю, беларускую хрысьціянскую дэмакрацыю (БХД), Беларускі Нацыянальны Камітэт. Мы паказалі, што яны заўсёды лучацца з падобнымі да іх буржуазнымі ўкраінскімі партыямі, *літоўскімі і польскімі*. Мы паказалі!, што ў сваіх палітычных камбінацыях яны лучацца з кожным „апякуном", які займаецца „беларускай справай". І мы паказалі, што іх лучэньне *заўсёды* скіравана *супроць* інтарэсаў беларускіх народных гушчаў.

Які-ж будзе *наш* адказ на пытаньне: „з кім лучыцца?", з якімі сіламі сучаснага грамадзтва павінны ісьці беларуская працоўныя гушчы, каб асягнуць *свае* патрабаваньні?

У выніку вядомых гістарычных умоў, мы апынуліся ў межах сучаснае Польшчы. Працоўныя гушчы іншых нацыянальнасьцяў, а таксама і польскай, жывуць у абставінах падобных да нашых. Кожная зьмена ўмоў жыцьця ў Польшчы знаходзіць адбіцьцё ў нашым жыцьці і таму тыя, што імкнуцца стварыць сьвятлейшую будучыню для народных гушчаў усяе Польшчы, зьяўляюцца нашымі братамі і з імі мы павінны лучыцца.

Кожны раз, калі гаворыцца аб лучнасьці з працоўнымі іншых народаў, паны Луцкевічы і ксяндзы Станкевічы крычаць: „гвалт"! „Самастойнасьць", „незалежнасьць" беларускага руху ў небясьпецы!" Вось яно, як вылазіць шыла з мяшка! Ці бачылі вы, каб багацеям калі спадабалася яднаньне польскага селяніна з беларускім, беларускае бядоты з жыдоўскай? — Нідзе і ніколі! І іменна таму, нашыя „радзімыя" паны узьнімаюць такі гвалт. У вуснах гэтых „праваднікоў" словы „самастойнасьць", „незалежнасьць" маюць на мэце—сяўбой шавінізму (нацыянальнае ненавісьці) ратаваць свой уплыў на масы, прыкрыць іх фактычную *залежнасьць* ад розных „апякуноў".

Мы-ж гаворым, што *наш рух мусіць быць самастойным і незалежным перадусім ад паноў Луцкевічаў і ксяндзоў Станкевічаў, г. зн. ад уплываў прадстаўнікоў заможніцкае клясы*. Толькі тады наш рух будзе выражаць імкненьні шырокіх народных масаў.

Лучэньне з працоўнымі масамі іншых нацыянальнасьцяў не выключае самастойнасьці нашага руху. Наадварот: такое лучэньне зьяўляецца *перадумоваю* гэтае самастойнасьці, дае нам сілу адбіць усялякія спробы ворагаў народу накінуць нам свае кіраўніцтва.

**Мы не адны!** У польскіх рабочых і сялянах, у працоўных іншых нацыянальнасьцяў бачым тых, з каторымі мы павінны лучыцца на кожным кроку нашага жыцьця, з каторымі пойдзем разам да лепшага заўтра.

*) Гл. „Беларуская Газэта" № 8.

## 19,300.

Год таму назад Сав. Саюз абвясьціў усяму сьвету аб распачатай падрыхтоўцы да палёту ў стратасфэру, гэта значыць у надпаветраныя прасторы.

Такі палёт быў зроблены ў 1931 годзе бэльгійскім вучоным Пікарам, які на сваім стратастаце падняўся на вышыню 15.800 м., у прасторы, дзе паветра значна радзейшае ад нашага, дзякуючы чаму самалёт з тою самаю колькасьцю сільнікаў стратасфэры змог бы праляцець у адну гадзіну ня 150-200 км., а 1000 км. нават больш. Калі ўлічыць аграмадныя абшары С.С.С.Р., якія цягнуцца ад Польскай да Кітайскай граніцы, 9—10 тысяч кілёмэтраў і тое, што самы хуткі цягнік ад Менска да Уладзівастока ідзе 9 дзён, што цэнтральныя газэты пападаюць на акраіну праз 12—15 дзён, то будзе зусім зразумелым пытаньне, якое прыкоўвае да сябе ўвагу савецкага ўраду і ўсіх навуковых сіл.

Увесь сьвет навукі бяз розьніцы палітычных пераканаьняў пільна сачыў за паступовасьцю гадавое падрыхтоўкі савецкіх вучоных. Сачылі і быўшыя „Рускія людзі" — манархісты, сацыялісты і ім падобныя, гісторыяй пакрыўджаныя мінулыя гаспадары. Толькі гэтыя апошнія сачылі не з замерам пацехі дасягненьнямі навукі, а з мэтаю скарыстаньня паасобных недахопаў, каб потым на падставе іх заліць брудам хлусьні ўсе сьветлейшыя справы абуджанага народу.

Пачынаючы ад сярэдзіны верасьня г. г., газэты ўсіх кірункаў паведамляюць аб закончанай падрыхтоўваючай працы і аб тым, што палёт адбудзецца гэтымі днямі.

24. IX. белагвардзейская прэса, па старым звычаям, вялікімі літарамі паведамляць сваіх чытачоў, што савецкі стратастат не мог адарвацца ад зямлі, а, „застыдзіўшыся неўдаўшымся палетам, прадстаўнікі ўлады вярнуліся ў Крэмль".

Лілося многа бруду на бедны стратастат, краіну Саветаў, першую і другую пяцігодку, якія, па думцы „белых", бязумоўна праваліліся.

Прыпомніўся голад, людажэрства, успомнілася тое, што каней і сабак паелі, што на вуліцах трупы, на станцыях гніюць мільёны тонн хлеба, не хапае рабочых рук на нагрузку, развал чыгункі (бо нагружае і выгружае ў дзень *толькі* 48 —50тысяч вагонаў, а па пляну павінна 58 тысяч вагонаў) і апошняя, сьвежая качка, проста з патэльні зьнята, гарачанькая: „савецкі стратастат прыліп да зямлі".

Тымчасам 30. IX. 33 г. радыё-апарат з *стратастату* паведамляў усяму сьвету: „дасягнулі вышыні 17.000 мэтраў, адчуваем сябе добра"... „Знаходзімся на вышыні 18.000 мэтраў". Рэкордовы палёт Пікара пабіты. Прыкусілі сабе языкі манархістычныя газэты. Абман ня ўдаўся. Занадта высака ўзьнялася навучная думка С.С.С.Р. з пяцігодкаю разам, аж на 19.300 мэтраў. Як паказаў канчатковы падлік па апарату стратастату, калі ён сьпусьціўся на зямлю, не далека ад Каломны, што знаходзіцца пад Масквою ў адлегласьці 115 кілёмэтраў.

Дасягнуўшы вышыні 19.300 м. на стратастаце ўласнага вырабу савецкая навуковая думка, паказала здольнасьці здабытай за 16 гадоў прамысловае тэхнікі і ў прыватнасьці тэхнікі пабудовы самалётаў, якая зусім адсутнічала пры гаспадарох з „Наше Время", „Сегодня" і іншых органаў манархістычных зуброў.

Спробы падняцца ў стратасфэру, заглянуць у яе таямніцы, пачалі рабіць з паяўленьнем самалётаў. На гэтым шляху яны маюць ня мала ахвяр. Так у 1901 годзе загінуў немец Берзос, у 1927 г. — амэрыканец Грэй, абодва ад удушэньня.

У 1931 годзе бэльгійскаму вучонаму Пікару ўдалося дасягнуць вышыні 15.800 мэтраў.

У 1933 г. 30-га верасьня савецкія вучоныя: Пракоп'еў, Бірнбаўм і Годуноў падняліся на 19.300 мэтраў, здабываючы ў стратасфэрычным палёце сусьветнае пяршынства. Гэта становіцца яшчэ больш важным таму, што гэтае пяршынства атрымаў народ, дзе 16 год таму назад, агульная граматнасьць не перавышала 25%.

Другі савецкі палёт у стратасфэру адбудзецца ў кастрычніку месяцы г. г. У ём прымуць удзел інж. Федосенко і праф. Усышкін. Трэба спадзявацца, што ён будзе мець яшчэ большыя пасьпехі, узбагачваючы людзтва новымі дасягненьнямі ў галіне навукі.

*К—сь.*

# Адказ на правакацыйную хлусьню.

Ксяндзоўская „Крыніца' пачула небясьпеку. Хістаецца грунт пад нагамі. З выхадам у сьвет „Беларускае Газэты" звужваецца магчымасьць адурманьваньня масаў, зьмяншаецца лік падпішчыкаў „Крыніцы". Дзякуючы *сваёй* „Беларускай Газэце" масы хутка пазнаюцца на хітрых хадэцкіх ашуканствах.

Белар. Хр. Дэмакрацыя хоча ратавацца выпрабаванымі мэтадамі ўсіх слугаў пануючых—мэтадамі *правакацыі*. Толькі так можна назваць „высьвятленьне" характару *нашай* газэты ў апошнім (34) нумары „Крыніцы". *Адумысна выдуманая імі мана мае на мэце справакаваць нас, давясьці да зачыненьня адзінай газэты беларускіх масаў Заходняй Беларусі. Бязглуздай хлусьнёй хочуць сфалшаваць перад масамі наш шлях і мэты.*

Мы гэтага не баімся. Тое што масы *адразу* адгукнуліся на выхад нашай газэты сотнямі прывітаньняў, што ў працягу апошніх некалькіх месяцаў нашая рэдакцыя атрымала *больш тысячы лістоў* з усіх куткоў Заходняе Беларусі, што лік падпішчыкаў няўхільна пабольшваецца—яскрава сьведчыць, што турботы паноў Станкевічаў—Клімовічаў—Пазьнякоў прападуць надарма.

Адказваць панам з „Крыніцы" — за вялікі быў-бы гонар — для гэтых палітычных шулераў. Але ёсьць пэўная частка несьвядомых *чытачоў*, для каторых „асьвятленьні" „Крыніцы" могуць—*зацямніць* сапраўднасьць. Вось *дзеля іх* і пішам наш адказ.

Будзем адказваць па пунктах.

1) „Беларуская Крыніца" піша, што „Беларуская Газэта"—гэта „байстручок бальшавіцка-польскага паразуменьня", што наша мэта, быццам:—„закрапіць на заўсёды сучаснае палітычнае палажэньне Беларусі, што арыентацыя наша, гэта:—„бальшавіцка-польскае паразуменьне".

*Мы адказваем*: мы зьяўляемся староньнікамі *толькі аднаго* паразуменьня:—*еднасьці беларускіх масаў з працоўнымі гушчамі ўсяе Польшчы* для таго, каб супольна ісьці да лепшае будучыні. Іменна хадэкі, *разам* з беларускай санацыяй, зьяўляюцца тымі, якія *закрапляюць* сучаснае палажэньне беларускіх масаў. Уся іх ашуканчая „апазыцыя" мае на мэце толькі *адцягнуць* народ ад адзінага шляху да лепшага заўтра. Факт мірнага пакту паміж СССР і Польшчай, як і паміж СССР і іншымі капіталістычнымі дзяржавамі мы разглядаем, як зьявішча дадатняе і мы пэўны таго, што беларускія народныя гушчы правільна ацэніваюць мірную палітыку Савецкага Саюзу, памятуючы адначасова, што гэтыя пакты не забясьпечваюць ад новай вайны. Але хадэкам мірная палітыка не падабаецца, *бо яны спэкулююць на крыві мільёнаў сялян і рабочых*, якіх хочуць пхнуць на вайну, бо яны побач з буржуазіяй іншых народаў зьяўляюцца *падпальшчыкамі новай вайны*, бязупынна заклікаюць да яе, цешацца з імпэрыялістычна ваенных правакацыяў Японіі, Гітлера і іншых дзяржаў.

Аб «байструках флірту» лепш за ўсіх павінны ведаць ксяндзы з „Крыніцы". Мы-ж зьяўляемся наўпракі ўсялякай хлусьні органам вызваленчага руху беларускага працоўнага народу.

2) „Крыніца" піша: „ідэолёгія „Беларускае Газэты" зьнішчыць усё народна-беларускае і забіць у беларускім народзе нацыанальнае пачуцьцё, не дапусьціць беларускіх сялян да эканамічна-гаспадарчае арганізацыі, каб яно не пабагацела, бо бяднейшае і неарганізаванае — пакорнейшае і слабейшае „да кіраваньня".

*Мы адказваем:* Нацыянальнае пачуцьцё нішчаць тыя, якія зьяўляюцца *перашкодай* на дарозе беларускіх масаў да асягненьня сваіх правоў, *гэта значыць хадэцыя і беларуская санацыя*. Не памогуць вам, паны Станкевічы-Клімовічы, вашыя *фразы* супроць палёнізацыйнай працы Луцкевічаў і Астроўскіх. Усім ведама, што *на справе другімі шляхамі*, захоўваньнем масаў у цемры, адцягваньнем масаў ад барацьбы за свае правы, *вы таксама* ствараеце грунт для палёнізацыі. Вы і бёларуская санацыя—гэта *прадстаўнікі аднэй фірмы пад двома шыльдамі*.

Вы выступаеце супроць нас не дзеля таго, што мы, быццам, не дапускаем да арганізацыі, бо ўсім ведама, што кожны нумар „Беларускае Газэты" заклікае да гэтага, але трасца вас бярэ таму, што мы заклікаем масы, каб арганізоўваліся ў каапэратывы, у культурна-асьветныя ўстановы *без* багацеяў і іх прадстаўнікоў, *бяз вас і супроць вас*! Вось што вам дапякло!

Вы закідваеце нам, што мы ня хочам, каб беларускія сяляне пабагацелі, а... *вы* гэтага хочаце!?? Ці бачылі вы, каго пабагаціла хадэцыя!! сьмеху варта! Вы агітуеце за малочныя каапэратывы, за збожжавыя хаўрусы, якія вызыскоўваюць сялянскую бядоту. Тыя эканамічна-гаспадарчыя арганізацыі, якія *вы* ствараеце — гэта новыя прылады вызыску бядоты. Тыя эканамічна-гаспадарчыя арганізацыі, якія *мы* ствараем — гэта прылады абароны масаў перад *вашым* вызыскам. Вашыя абяцанкі багацтва пры сучасных умовах гэта ашуканствы, на якіх пазнаецца кожны селянін ці рабочы.

Што датычыць «пакоры», ды «слабейшых» да «кіраваньня», то найбольш гэтаму вучаць іменна паны з духавенства — як каталіцкага так і праваслаўнага і таму панове Станкевічы і Годлеўскія прыпамінаем вам прыказку Крылова: «чем кумушек считать трудиться, не лучше-ль на себя, кума, оборотиться».

3) І ўрэшце апошняе: «Крыніца піша»: „рэдактар Карповіч сярод беларусаў невядомы».

Што рэдактар інжынер Карповіч мала вядомы — гэта праўда. Але можам запэўніць паноў з «Крыніцы», што ён ніколі ў жыцьці не захоча зьмяніць гэтае „нявядомасьці" на такую „славу" як „слава" Станкевічаў і Клімовічаў—здраднікаў інтарэсаў беларускага працоўнага народу.

* * *

Вось наш адказ. Працу, распачатую намі, будзем працягваць наперакор варожаму цкаваньню. Мы пэўны ў падтрымцы найшырэйшых масаў. На хлусьню хадэкаў кожны селянін, рабочы, працоўны інтэлігэнт павінен адказаць *масавым байкотам* «Беларускае Крыніцы», для якой больш адпаведны быў-бы назоў: «Крыніца агіды». Не адбіраць з почты, адсылаць ім газэты назад, ня купляць ніводнага нумару — вось да чаго заклікаем у адказ на іх правакацыйныя мэтады.

# Хмары згушчаюцца.

Мы не памыляліся, пішучы ў папярэдніх нумарох нашае газэты аб надзвычайным напружаньні, сучаснага палажэньня і аб тым, што *небясьпека вайны*, сяньня стаіць так блізка, як ніколі.

Сьведама разумеючы гэтую справу, мы ня можам не рэагаваць на думку пэўнае часткі нашага грамадзянства аб тым, што „вайна цяпер не пагражае з повады паляпшэньня ўзаемаадносін, паміж Саветамі з аднаго боку, Францыяй і Польшчай—з другога".

Небясьпека такога вываду будзе зразумелай, калі мы заглянем глыбей у падзеі, якія адбываюцца ня толькі паміж урадамі, Францыі, Польшчы і СССР, а і ў растаноўцы сіл ўва ўсім сьвеце. Ня можна забываць таго, што ў краінах, якія пайшлі на зблiжэньне пад напорам унутраных і вонкавых сіл, існуюць групы, групачкі, а нават і цэлыя партыі вoража настроеныя супроць усякага зблiжэньня, з Саветамі, партыі, якія гатовы ў любы мамэнт пайсьці з Гітлерам вайною супроць СССР.

Апрацоўка грамадзкае думкі ў кірунку падрыхтоўкі яе да набліжаючайся бойні асабліва ажывілася ў зьвязку з падзеямі на Далёкім Усходзе. Пасьля фактычнага захопу Японіей Манджурыі і Джэголю, пасьля дагаворанасьцьці Японіі з Нанкінскім урадам Чанг-Кай-Шэка, японская ваеншчына стала адкрыта гутарыць аб сваім праве на Прыамурскі край і нават на ўсходнюю Сібір, аж да возера Байкалу.

Застаючыся вернымі сваім марам японскія імпэрыялісты стала, ужо на працягу двох гадоў узмацняюць свае ўзброеныя сілы, як колькасна, так і якасна, забясьпечваючыся ваеннымі прыпасамі, будуючы сетку арсэналаў па ўсей Манджурыі.

Узмацняючы сваю баявую моц, Японія рознымі шляхамі, правакуе ўрад Савецкага Саюза на вайну, адкідае яго мірныя прапановы. Яна адмовілася заключыць трактат аб не нападзе, фактычна зьявілась галоўным захопнікам Кітайска-Усходняй Чыгункі, непасрэдным удзельнікам зьдзекаў над савецкімі грамадзянамі ў Манджурыі і апошняга арышту 5 адказных працаўнікоў на чыгунцы. Па яе віне спынены перагаворы аб прадажы Сов. урадам КУЧ Манджурскаму ўраду.

Гэта адна прычына, якая разьвязала языкі найбольш адкрытым проці савецкім элементам, якая акрыліла белых эмігрантаў надзеямі аб магчымасьці пры дапамозе вонкавых сіл павярнуць калясо гісторыі назад і вярнуць мінулае Расеі.

Другая, няменш важная прычына — прыход Гітлера да ўлады, а *разам* з ім і **адкрытай** анты савецкай палітыкі Нямеччыны, стаўшай у Эўропе галоўным групуючым цэнтрам усіх, хто больш адкрыта, *чым другія* ненавідзіць бальшавікоў, іх гаспадарчы і палітычны ўклад, ад якога, па думцы гэтых элэментаў, «нясе заразаю на ўвесь сьвет».

Таму Гітлер з сваімі паплечнікамі на працягу васьмімесячнага панаваньня, не саромеючыся з міжнароднае трыбуны дамагаецца права на ўзбраеньне, як галоўнай перадумовы будучага паходу на Усход.

Праўда на даньне такога права пераможцы ў сусьветнай вайне не пайшлі, але зусім не таму, што яны супроць інтэрвэнцыі, а таму, што такое права для Нямеччыны азначало-б канец вэрсальскага дагавору, азначало-б перагляд вызначаных ім граніц, а гэта ў сваю чаргу паставіло-б пад лабавы агонь дзяржавы, каторых існаваньне зьвязана з існуючым дагаворам.

Ня гледзячы на ўсё, гітлероўская Нямеччына кожын свой крок, кожын чын накіроўвае проціў С.С.С.Р. Бязупынныя перасьледаваньні савецкіх прадстаўнікоў, арышты, вобыскі, недапушчэньне савецкіх карэспандэнтаў на лейпцыгскі працэс прывялі да энэргічнага, зусім зразумелага адпору з боку савецкага ўраду.

Такім чынам, няправільнай будзе думка аб зьмяншэньні небясьпекі вайны. Зараз уся гітлероўскі-белагвардзейская, нацыянал-фашыстоўская прэса занята цкаваньнем Саветаў.

Выходзіць, што мы ня можам ня бачыць адбываючыхся падзеяў, ня можам разбрайваць сябе, а мусім пільна прыглядацца да таго, што робіцца ў сьвеце і ў нашым краі. Бо, згубіўшы гэтыя простыя абавязкі сьвядомага грамадзяніна, можна хутка апыніцца ў сецях спрытнага ворага, які турбуецца аб кожным такім несьвядомым, каб зрабіць з яго сьляпую зброю для вайны.

Таму ўвага не павінна паніжацца, бо час становіцца ўсё больш напружаным і адказным.

*Баравізна.*

# З апошняе хвілі.

## Нямеччына выступіла з Лігі Нацый і Канфэрэнцыі па „разбраеньні".

Апошнія тэлеграмы прынясьлі вестку аб тым, што з прычыны няпрызнаньня Нямеччыне права на роўнае з іншымі дзяржавамі збраеньне,—урад Гітлера вынес пастанову аб выхадзе Нямеччыны з Лігі Нацый і Канфэрэнцыі па „разбраеньні". 14 кастрычніка нямецкая дэлегацыя выехала з Жэнэвы. Адначасна прэзыдэнт Гіндэнбург выдаў дэкрэт аб роспуску Рэйхстагу і аб вызначэньні новых выбараў на 12 лістапада.

У сувязі з новай палітычнай сытуацыяй, Гітлер зьвярнуўся да „нямецкага народу" з адумысловай адозвай, а вечарам—14 кастрычніка—выступіў з вялікай прамовай па радыё. Гітлер жаліўся, што вялікія дзяржавы, заместа дзякаваць нацыянал-сацыялістам за „выратаваньне сьвету ад камунізму", ставяць Нямеччыну ў „паніжаючае палажэньне", ня хочучы прызнаваць роўнасьці ў справе збраеньня.

**Эва Шэльбург-Зарэмбіна.**

# Кобрынскі працэс.

Мы тут друкуем рад выняткаў з нарысу польскае мяшчанскае пісьменьніцы Э в ы Ш э л ь б у р г - З а р э м б і н ы Нарыс быў зьмешчаны ў варшаўскім тыднёвіку „Wiadomości Literackie" № 43 (514) за 1 кастрычніка.

Кобрынскі даразны суд адгукнуўся гулкім рэхам як у шырокіх колах грамадзянства, так і на старонках прэсы ўсіх палітычных кірункаў. Нават „Беларуская Крыніца" прысьвяціла яму артыкул, які... можа быць клясычным ўзорам хамства, бязглуздасьці і п р а в а к а ц ы і, артыкул, якім крынічнікі ўпісалі яшчэ адну старонку г а н ь б ы ў гісторыю БХД.

На 9 гадзіну вызначана паседжаньне суду. А палове дзевятай выходжу з гатэлю. Не пазнаю ўчарашняга мястэчка. Вуліцы — быццам сталі шырэйшымі, дамы—быццам вырасьлі. Усюды, дзе ні глянь: сінія мундуры паліцыі. Відаць, што сюды значна раней за нас прышло суровае слова—„sąd doraźny".

Чым бліжэй да гмаху гарадзкога суду, тым больш мундуровай паліцыі, сурова паглядаючай з-пад цьвёрдых белых шапак. Сам гмах гарадзкога суду, некалі манастыр, стаіць пасярод шырокага, заросшага травою, двара. Перад уваходнымі дзьвярмі, на ўсходках, густа перамешаныя з паліцыяй групы цывільнага насельніцтва: публіка ў пальтах і капялюшох, некалькі ваенных у мундурах з мядалямі і—невялічкая сялянская грамада ў сівых сьвітках, у портках з каравага палатна, у лыковых лапцях...

Зразумелая рэч: у малым, загубленым сярод трасьціны і балот, мястэчку нялёгка робяцца вялікія сэнсацыі. А тут — здарылася нешта неспадзявана цікавае: магчымасьць дакрануцца і то зусім бясьпечна да чужой сьмерці — з чалавечага прысуду. Да дзевяці такіх сьмерцяў. І вось сядзіць гэты сівы, вусаты ягомасьць з мінай шлягера старой даты і гэтая панечка ў бронзавым капялюшыку, пухкая, ружовая, з ямкамі на шчоках, страляючая на ўсе бакі разасьмеянымі вочкамі. Усе яны забаўляюцца тут... Пасьля прадстаўленьня спакойна вернуцца дамоў.

Цяжка, аднак, не падумаць, што тут сем'і пакрыўджаных паліцыянтаў, з трудом утрымліваючых парадак... Гэтыя цык сапраўды, мусіць, чуюцца тут, як некалі на Дзікіх Палёх:—вока за вока, зуб за зуб.

У другой палове цеснай, на жоўта памаляванай салі гарадзкога суду, ёсьць нявысокае ўзвышша. На ўзвышшы стаіць стол для судзьдзяў Над сталом, там на сьцяне, дзе — магчыма —да 1918 году вісеў папяровы твар Цара Усерасеі,—наабапал Арла — два партрэты: Прэзыдэнта Рэчыпаспалітай Польшчы і Маршалка Пілсудзкага. Стол накрыты чырвоным сукном. На чырвоным сукне—маленькі чорны крыж.

Саля ўстае на прыход Высокага Суду.

На грудзёх старшыні суду калышацца залаты ланцуг з сярэбраным арлом і здалёк віднымі літарамі: R. P.

Пракурор—усьміхаецца. На супроць яго — задуманыя твары абаронцаў. За лініяй абароны —нярухомыя, тупа загледжаныя ў вакно, абвінавачаныя пад вартай чатырох доўгіх штыхоў. На краю бар'еркі, што аддзяляе падсудных ад публікі, ляжаць толькі што зьнятыя з рук вязьняў кайданы.

Пачынаецца суд.

Праверка пасудных ідзе шпарка.

Старшыня чытае акт абвінавачаньня.

Кончыў. Тады з-над ляжачых копій акту абвінавачаньня пачарзе ўстаюць адвакаты, прапануючы перадаць справу звычайнаму суду.

Пасьля доўгае нарады суд прапанову абароны адкідае. Ад гэтае хвіліны цяжка навіслае

